Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".
12+
11 мая 2018 года №19 (1202)



# Калекцыя зброі, інсталяцыі пра Гагарына і "Нірвану", сэрца самазабойцы –

## у Маладзечне адкрылі музей: пакой гісторыі судова-экспертнай дзейнасці




Экспазіцыя прысвечаная Маладзечну 1960-х гадоў. Справа – самагонны апарат, злева – ровар даваенный вытворчасці. Манекен убраны ў савецкую форму міліцыянера – менавіта яны ў той час займаліся крыміналістыкай.



Першую экскурсію праводзіць начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Юры Будо.



старонка 5

Фота З[illegible]

Чырвоную стужку пераразаюць намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз, Галоўны дзяржаўны судова-медыцынскі эксперт Беларусі Юры Аўсіюк (справа) і начальнік упраўлення Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз па Мінскай вобласці палкоўнік юстыцыі Мікалай Платніцкі.



ISSN 1991–7155



## На якіх пляжах можна адпачываць

МАЛАДЗЕЧНА

18 красавіка правялі камісійны аб'езд узаконеных месцаў адпачынку каля вадаёмаў Маладзечаншчыны.

У раёне зацвердзілі два варыянты для купання і масавага адпачынку. Сярод іх вадаём санаторыя "Сасновы Бор", дома адпачынку "Алеся", вадаём у пасёлку Беразінскае і Удранка каля Радашкавічаў.

Інфармацыю па выніках аб'езду падрыхтавалі ў райвыканкам. Ведамствам, якія адказваюць за вадаёмы і пляжы, далі рэкамендацыі па выпраўленні парушэнняў, прыборцы тэрыторыі, рамонце кабінак для пераапранання і агароджванняў.

Несанкцыянаваных звалак было менш, чым некалькі год таму. Просім адпачывальнікаў не забываць прыбіраць за сабой смецце.

**Міхаіл Міхалевіч, доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення каммунальнай гігіены Маладзечанскага ЦГЭ.**

## Свята дзяцінства і сям'і правядуць у Вілейцы

**Першага чэрвеня а 16 гадзіне ў Вілейцы зладзяць свята дзяцінства і сям'і.**

Мерапрыемствы правядуць у новым мікрараёне Паўночны-2 на вялікай аўтамабільнай паркоўцы.

**У праграме:**

- канцэрт выхаванцаў дзіцячых садкоў
- конкурс малюнкаў на асфальце "Дзеці выбіраюць мір"
- пенная вечарынка
- шоу блізнятаў
- святочны матч па міні-футболе
- святочны канцэрт
- дзіцячы забаўляльны гарадок "Планета Жаданняў"
- прызы, падарункі, віктарыны, розыгрышы.

Для тых, хто пры ўваходзе на пляцоўку набудзе смайлікі-флікеры, – бясплатныя ласункі і безалкагольныя напоі.

Арганізатары – Вілейскі савет дэпутатаў, Вілейскі райвыканкам, аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі, аддзел адукацыі, спорту і турызму, Беларускі саюз жанчын, Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр абслугоўвання насельніцтва.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ільянцы ўсклалі кветкі да помнікаў у Любчы і Борках

ВІЛЕЙКА

4 мая вучні і настаўнікі школы прысутнічалі на памятным мерапрыемстве, прысвечаным 75-гадавіне з дня трагедыі ў вёсках Любча і Боркі.

Мерапрыемства праходзіла на мемарыяльным комплексе на месцы спаленай вёскі Любча. На ім прысутнічала **Фаіна Анасовіч**, жыхарка Борак, якаяневарагодным чынам засталася жывой. Да помнікаў у Любчы і Борках прысутныя ўсклалі кветкі.

А ў актавай зале школы зладзілі літаратурна-музычную кампазіцыю "Памяць сэрца", прысвечаную спаленым вёскам.

**Людміла МІКУЛІЧ, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Ільянскай СШ.**



Фота Людмілы МІКУЛІЧ.

Ільянскія пяцікласнікі на мерапрыемстве.

# Плябанскія могілкі за адзін дзень завалілі смеццем

МАЛАДЗЕЧНА

**Ні ў які іншы дзень не бывае так шматлюдна на плябанскіх могілках, як 6 мая.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Звалкі смецця былі і на магілах, і каля магіл.

На Юр'е, 6 мая, сюды прыязджаюць усе, хто хоча ўшанаваць памяць памерлых сваякоў. На жаль, гэта не адзіны звычай на гэтых могілках.

Тэрыторыя раздзелена на дзве часткі. Тую, што бліжэй да Маладзечна, называюць "новай". Тут пераважна дагледжаныя магілы, роўна размешчаныя агароджы. На тэрыторыі каля дарогі смецце зносяць у кантэйнер, які зручна размешчаны каля трасы.

Насупраць, у бок Мінска, месцяцца "старыя" могілкі. Раней у гэтай частцы на ўзвышшы была царква, якую пасля вайны камуністы загадалі разабраць мясцовым жыхарам. З-за няроўнай зямлі могілкі размешчаныя без парадку, пад рознымі вугламі і з надмагільнымі камянямі ва ўсе бакі свету.

У гэтай частцы шмат магіл з помнікамі-камянямі, якія часам рассоўвалі, каб размясціць свежую магілу. Некаторыя помнікі валяюцца.

У другой палове дня мы заўважылі не менш за дзесяць месцаў самавольных звалак. Кучы лісця, галінак, старых пластыкавых кветак пакідаюць там, дзе зручна. Сустракаецца, што некалькі такіх куч адна каля адной, ёсць звалежанае смецце проста на магілы.

### "Сказалі, раз я працую ў сельсавеце, то мне і прыбіраць"

За плябанскія могілкі адказвае Красненскі сельсавет. Спецыялісты расказалі, што напярэдадні Юр'я на могілках зладзілі суботнік:

– Мы там вычысцілі ўсё! А на наступны дзень зноў насвінячылі. Наша старшыня як убачыла, аж плакала.

Мы папрасілі пракаментаваць сітуацыю старшыню Красненскага сельсавета **Валянціну Кісель:**

– Мы пастаянна змагаемся там са смеццем. Яшчэ на тэрыторыі каля кантэйнера больш-менш, а далей куча на кучы. Мы прыбіралі там перад Радаўніцай, пасля яе, зладзілі суботнік 5 мая. 38 чалавек стаялі ланцугом. У 13 гадзін у суботу закончылі прыборку, у 17 мне ўжо перадаюць, што зноў накідалі. Яшчэ б галінкі ці травінкі, а гэтыя пластыкавыя кветкі проста кашмар! Я катэгарычна супраць іх, хай бы іх увогуле забаранілі. Мы іх віламі выкалупвалі. Данесці да грамадзян, што на могілках за сабой трэба прыбіраць, спрабавалі і на сходах, і праз царкву – ніякага выніку. Аднойчы мне так і сказалі: "Раз у сельсавеце працуеш, ты і прыбірай".

– А вы спрабавалі з міліцыяй хадзіць, штрафы выпісваць?

– Міліцыя гэтым займацца не будзе. Пакуль свядомасць жыхароў не абудзіцца, выніку не дачакаемся.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## 10 мая пачалі адключаць гарачую ваду

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**Праводзіць апрасоўку ў Маладзечне традыцыйна будуць у два этапы.**

Горад дзеліцца на дзве чаргі па вуліцы Віленскай.

Спецыялісты будуць імкнуцца выканаць работы апаратыўна і вытрымліваць тэрміны, сказаў намеснік дырэктара Маладзечанскіх электрасетак **Леанід Кузняцоў**.

Ад 10 да 23 мая гарачую ваду адключаць у той частцы горада, што размешчаная ў бок Смаргоні ад вуліцы Віленскай. У гэту частку ўваходзяць Гелянова і Здземелева, дамы па вуліцах Буйніцкага, Галіцкага, Лебедзеўскай, Чкалава, Таміліна. Некаторыя вуліцы падзяляюцца.

У першай чарзе – дамы №№3-9, 42, 44, 44-а, 46 і 48 па Хмяльніцкага; №№1-5, 8, 10, 12 па Талстога; №№1-10 па Віленскай; №№7, 9 і 10 па Валынца; №№6, 10, 12, 14, 16, 18, 25, 27 па Прытыцкага; №№8, 12, 14, 19-а па Грамадоўскай; №№45, 47, 49, 51 па Лібава-Роменскай; дом №60 па Бухаўшчыне. Таксама дамы па Вялікім Гасціцы – ад №64 па цотным баку і ад №85 – па няцотным.

З адміністрацыйных будынкаў гарачую ваду ў гэты перыяд адключаць у дзіцячых садках №№4, 6, 9, 12, 15, 16, 17, 26, 27, гандлёва-эканамічным каледжы, школе мастацтваў, гасцініцы, Палацы культуры, Следчым камітэце і КДБ, музеі, судзе, кінатэатры, банкаўскім комплексе, у школах №№2, 7, лазні №2.

### Другі этап

Запланавана, што ён працягнецца ад 24 мая да 6 чэрвеня. У другую частку ўваходзяць дамы ў бок Мінска ад вуліцы Віленскай.

Па Вялікім Гасціцы гэта дамы ад №68 па цотным баку і ад №107 – па няцотным у бок сталіцы.

У другой чарзе адключаць ваду Залінейнаму раёну, Станказаводскаму, Вялікаму Сялу, Усходняму мікрараёну і раёнам №№4, 6, 10. Гэта вуліцы Янкі Купалы, Касманаўтаў, Скарыны, Будаўнікоў, Ламаносава, Таўлая.

Дамы на вуліцах Хмяльніцкага, Віленскай, Валынца, Прытыцкага, Грамадоўскай, Лібава-Роменскай – акрамя тых, што трапляюць у першую чаргу (спіс вышэй). Таксама дамы №№1, 3, 5 па 17 Верасня і Магістральнай.

Сярод установ апрасоўка будзе ў школах №№1, 4, 8, 9, 11, 12, 14, 6, 10; гімназіі-каледжы мастацтваў; садках №№1, 2, 7, 8, 10, 11, 14, 19, 23, 24, 28, 29, 30, 31, 35, 18; у Лядовым палацы; цэнтры "Тройка"; лазнях №№1, 3, 4.

### Віляйчане на два тыдні застануцца без гарачай вады

Ад 14 па 27 мая ў Вілейцы адключаць гарачую ваду, паведамляюць у ЖКГ.

У гэты час правядуць апрасоўку цеплавых сетак.

**Аддзел інфармацыі.**

# Расказвае прафесіянал: **як зрабіць шашлыкі з розным смакам**

ВІЛЕЙКА

**Тры рэцэпты марынаду, і ўсе розныя – станьце гуру мангальнага мяса з нашымі парадамі.**

Пра тое, як самому зрабіць такія шашлыкі, каб усе госці пальчыкі аблізвалі, для чытачоў "РГ" расказала майстар вытворчага навучання Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Алена Фірс**. Яна разам з калегамі і навучэнцамі рыхтуе шашлыкі і іншыя стравы для разнастайных выставаў, дажынак і іншых святаў. Вілейскія шашлыкі цэняць за бездакорную якасць і навізну – тут любяць эксперыментаваць з рэцэптамі.


Фота Mama.ua.

**Галоўнае для шашлыку, вядома, выдатная кампанія. Аднак без смачнага мяса пікнік не атрымаецца дастатковым.**


Фота autoinvest.spb.ru.

**1. Выбірайце свежае якаснае мяса і замарынуйце на свой густ.**


Фота Povar.ru.

**2. Прыгатуйце на мангале ці рашотцы-грылі.**

### Выбіраем мяса

Бярыце толькі якаснае свежае мяса. Калі гэта свініна – абірайце шыйную частку. Так, гэта нятанна, затое шашлык атрымаецца сакавітым і вельмі смачным.

Алена Фірс рэкамендуе пры планаванні стала акцэнтаваць увагу на свініну. Менавіта яна – каралева шашлыкоў. Розныя кілбаскі, рабрынкі, курацін і нават рыба таксама могуць на яго трапіць. Але лепш рабіць іх дадаткам на аматара.

Смак шашлыку залежыць у першую чаргу ад якасці мяса, а ў другую – ад марынаду. Прапануем тры адметныя варыянты.

Агульныя парады такія: наразайце мяса прыкладна аднолькавымі кавалачкамі, каб яно раўнамерна прапяклося. Марынуйце ў посудзе з эмалі, керамікі ці шкла. У крайнім выпадку можна скарыстаць пакет. Найлепш марынад размякчае мяса і насычае смакам за ноч.

### Рэцэпт марынаду "Пяшчота"

З усіх варыянтаў яго абіраюць за простыя складнікі і пяшчотны смак.

На тры кілаграмы мяса трэба адзін літр кефіру і чатыры памідоры, нарэзаныя кольцамі. Спачатку ў посуд выкладаюць кавалачкі мяса ў адзін слой, іх трэба пасаліць і прыправіць. Далей накласці памідоры, на якія можна выкладаць наступны слой мяса. Калі ўсё мяса будзе выкладзена, апошні слой пакрыйце памідорамі і ўсю масу заліце кефірам.

У гэтым рэцэпце са спецый варта выкарыстоўваць толькі молаты перац. Вытрымлівайце мяса ў марынадзе не менш за дзве гадзіны.

Смак атрымліваецца вельмі мяккі, мяса сакавітае. Выдатны варыянт для тых, хто не любіць воцат.


Фота zastavki.com.

**3. Падавайце з гарнірам ці соусамі.**

### Рэцэпт марынаду "Карэйскі"

Такі спосаб падыдзе аматарам усходняй кухні. Смак мяса атрымаецца адметным і вельмі насычаным. Выкарыстоўвайце невялікія кавалачкі мяса. У марынадзе трымайце не менш за 40-80 хвілін.

На адзін кілаграм мяса вазьміце тры сталовыя лыжкі соевага соусу, столькі ж мёду, дзве сталовыя лыжкі бальзамічнага воцату, сок аднаго лімона, соль, чырвоны перац і кары.

Мяса на смак будзе вострым, з экзатычнай ноткай.

### Рэцэпт марынаду "Бюджэтны"

Самы просты, даступны спосаб ні ў чым не саступае іншым па якасці. Гэта марынад на мінеральнай вадзе.

На тры кілаграмы мяса трэба ўзяць паўлітра вады. Майстар рэкамендуе абраць "Есентукі". У марынад дадайце дзве сталовыя лыжкі воцату, цыбулю, нарэзаную кольцамі, маяран, базілік, соль і куркуму.

Марынуйце не менш за 2,5-3 гадзіны. Шашлык набудзе прыемны жоўты колер.

### Што дадаць да шашлыку

Алена Фірс упэўненая, што шашлык – на дзіва самадастатковая страва. Аднак ён добра сябруе з гарнірамі і соусамі. Абірайце шашлычныя кетчупы ці падрыхтуйце свой варыянт. Паспрабуйце зрабіць такі соус: змяшчайце кепчуп з маянэзам і злучыце з расціснутым часнаком і здробненай зелянінай.

Гарнірам да карэйскага шашлыка падыдзе рыс, да кефірнага – бульбяное пюрэ, а да мяса на мінеральцы – гародніна.

Шашлыкі – гэта страва для асаблівых выпадкаў, калі хочацца сябе папесціць. Таму выбірайцеся на іх толькі ў камфортнае надвор'е, а, самае галоўнае, – у кампаніі блізкіх, прыемных вам людзей. Тады мяса дакладна атрымаецца смачным.

**Эмілія ХВОЯ.**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.05 | 10.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0187 | **2,0203** |
| Еўра | 2,4253 | **2,4056** |
| Злоты, 10 | 5,6778 | **5,6284** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,1837 | **3,2082** |
| Грыўня, 100 | 7,7204 | **7,7022** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 2.05 | 8.05 |
| Еўра | 2.4100/2.4400 | **2.3850/2.4200** |
| Долар ЗША | 1.9950/2.0350 | **2.0000/2.0300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 2.05 | 8.05 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Карп "Элітны" | - | **-** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,60** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 2,80 | **2,70** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,80 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,30** |
| Капуста, 1 кг | 1,60 | **1,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,80 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **1,30** |
| Памідоры, 1 кг | 3,85 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 7,80 | **6,80** |
| Радыс, 1 кг | 2,90 | **1,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,79 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,80** |
| Шампіньёны, 1 кг | - | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | - | **7,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **3,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,49 | **2,40** |
| Вінаград, 1 кг | 5,40 | **5,50** |
| Гранаты, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,20 | **3,20** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Клубніцы, 1 кг | 8,90 | **7,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,80 | **4,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,30 | **3,95** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **1,90** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | - | **-** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

НАВІНЫ

## Ці патрэбныя рэгістрацыя і тэхагляд для ўсіх маламерных суднаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

У пачатку 2000-х гадоў уладальнікі некаторых маламерных суднаў сабралі больш за тысячу подпісаў за адмену тэхнічнага агляду і дасягнулі свайго.

Але ў 2014-м тэхнічны агляд вярнуўся ў практыку, а кантроль за бяспекай маламерных суднаў узяло на сябе МНС, а менавіта дзяржінспекцыя па маламерных суднах.

Сёння сітуацыя такая: МНС разаслала на ўзгадненне ў розныя дзяржорганы праект указа аб адмене тэхагляду для вёславых маламерных суднаў. Гэта датычыцца ўсіх лодак незалежна ад грузападымальнасці. Нагадаем, пакуль ад тэхагляду вызваленыя толькі тыя, грузападымальнасць якіх не больш за 225 кілаграмаў.

Такую ж ільготу абяцаюць для маторных маламерных суднаў, магутнасць рухавіка якіх не перавышае 3,7 кілавата.

Такім чынам, плаваць без тэхагляду і рэгістрацыі змогуць больш за 50% ад усіх маламерных суднаў, якія штогадова рэгіструюць у Беларусі.

Уладальнікі суднаў атрымаюць больш свабоды. Дзякуючы пераменам не толькі спросціцца само ўтрыманне маторных лодак, але ўладальнікі могуць зэканоміць грошы.

Аднак правілы бяспекі застаюцца ранейшымі. Усе судны, якія знаходзяцца ў вадзе, павінны быць спраўнымі, з поўнай камплектацыяй на борце.

**Андрэй МОНІТ, начальнік маладзечанскага ўчастка дзяржінспекцыі па маламерных суднах.**

## Вырашыў пакатацца на чужой машыне

**АСТРАВЕЦ**

У Астраўцы п'яны мужчына знайшоў у двары ключы ад чужой машыны, скраў яе і перакуліўся. Гаспадар машыны Дзмітры распавёў "Авто-Гродно" пра падрабязнасці здарэння.

Ён адправіўся ў Астравец у камандзіроўку і, пакуль ішоў дадому, згубіў ключы. Іх адразу знайшла кампанія хлопцаў, вылічыла машыну і пакінула запіску: "Вернем ключы за пляшку гарэлкі".

Запіску Дзмітры ўбачыць нават не паспеў, яму неўзабаве патэлефанавалі з ДАІ.

– Ваша машына Audi C3?

– Так, мая.

– Дзе зараз знаходзіцца?

– У мяне пад пад'ездам.

– Толькі што яна перакулілася каля кальцавой развязкі.

Дзмітры хутка сабраўся і дабраўся да месца здарэння.

Аказалася, што, знайшоўшы ключы, кампанія сядзела дома і выпівала. Да трох гадзін дня аднаму з іх стала сумна, ён скарыстаўся чужым аўтамабілем і некуды паехаў. А на кальцы не справіўся з кіраваннем, аўтамабіль некалькі разоў перакуліўся. Пры гэтым з салона выпала пляшка гарэлкі і піва, якія згоншчык прыхапіў з сабой.

Мужчына амаль не пацярпеў. Яго адвезлі ў бальніцу, але ён адтуль збег. У Астраўцы быў абвешчаны план "перахоп", і міліцыя змагла яго знайсці.

Згоншчыкам быў мужчына з Расіі, ён прыехаў на працу ў Астравец.

**Паводле autogrodno.by.**

## Хлопец пахуліганіў: разбіў акно кватэры

**ВІЛЕЙКА**

Інцыдэнт адбыўся ўвечары 2 мая на вуліцы Вадап'янава.

Кампанія маладых людзей у гэты дзень адпачывала ў гарадскім парку.

Па словах начальніка Вілейскага РАСК, хлопцы пілі піва. Пасля, прыблізна апалове дзясятай, яны праходзілі міма шматпавярховага дома, адзін з кампаніі падняў камень і шпурнуў яго ў акно першага паверха.

Міліцыю выклікаў гаспадар разбітага шклопакета, які ў гэты час знаходзіўся ў кватэры. Праваахоўнікі высветлілі, што камень кінуў 19-гадовы жыхар Вілейкі, навучэнец каледжа.

Сваё дзеянне ён патлумачыў так: "Вырашыў пахуліганіць". Трэцяга мая ў дачыненні да яго ўзбуджаная крымінальная справа.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Пачалі працэс па забойстве віляйчаніна, намесніка дырэктара "Малочнага гасцінца"

**ВІЛЕЙКА**

**У Мінскім гарадскім судзе пачалі працэс па справе, звязанай з забойствам ураджэнца Вілейкі, намесніка дырэктара прадпрыемства "Малочны гасцінец".**




Кадр з праграмы "Зона Х".

Адзін з падазраваных падчас суда.

Гэта злачынства адбылося ў Мінску больш за год таму. У 2016 годзе ў міліцыю звярнулася жанчына з заявай аб знікненні роднага брата.

Як высветлілі, да знікнення **Андрэя Касяка** датычныя двое жыхароў Мінска: 29-гадовы прыяцель зніклага і 41-гадовы гаспадар пэйнтбольнага клуба. Па версіі следства, прычынай расправы сталі 50 тысяч долараў, якія зламыснікі выкралі ў сваёй ахвяры пасля забойства. Затрымаць падазраваных атрымалася пасля таго, як праз месяц пасля знікнення знайшлі машыну забітага. У багажніку "Аўдзі" эксперты знайшлі часцінкі крыві зніклага, якія і пацвердзілі самыя страшныя здагадкі.

Як высветлілася, напярэдадні трагедыі мужчына збіраўся купіць новую машыну за 50 тысяч долараў. Следчыя па-зней высветляць, што менавіта гэтыя грошы і сталі матывам забойства.

Да забойства мужчыны аказаўся датычны таварыш, з якім Андрэй Касяк пазнаёміўся напярэдадні трагедыі. Біялагічныя сляды гэтага ў той самай "Аўдзі Q7". Сабе ў дапамогу 29-гадовы малады чалавек узяў дасведчанага таварыша – 41-гадовага гаспадара пэйнтбольнага клуба. На падставе пошуку для сабакі новага гаспадара, ахвяру завабілі ў пейнтбольны клуб. Менавіта тут і адбылася расправа.

У самым пачатку працэсу сястра забітага папрасіла прызнаць бацькоў пацярпелымі, да гэтага дня яны фігуравалі ў крымінальнай справе ў якасці сведак.

**Паводле TVR.BY.**

## У бухуліку не ўлічылі пабудовы коштам больш за два мільёны

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю пры праверцы таварыства "Купала-Агра" знайшоў парушэнні.**

Сярод іх – у вядзенні бухгалтарскага ўліку, зямельнага і прыродаахоўнага заканадаўства, а таксама тэрміны выплаты зарплаты.

У бухуліку да праверкі не былі ўлічаныя шэсць будынкаў і 25 пабудоў меліярацыйных сістэм балансавым коштам вышэй за два мільёны рублёў.

24 аб'екты асноўных сродкаў, частка з якіх не выкарыстоўваецца ад 2008 года, і каля 13 га зямель сельскагаспадарчага прызначэння зараслі пустазеллем. Іх ніяк не выкарыстоўвалі ў вытворчасці.

У бухуліку несвоечасова адлюстроўвалі гаспадарчыя аперацыі. Гэта прывяло да павелічэння чыстага ўбытку таварыства за 2016 год на 79 тысяч рублёў, што складае 11,4% ад улікових дадзеных.

У 2017 годзе таварыства не мела недахопу ў сіласна-сянажных пабудовах. Але сіласную масу кукурузы закладалі ў курганы. Напрыклад, так рабілі на ферме "Кліманты". А траншэя на малочнатаварнай ферме "Гарнякі" 2015 года так і засталася незапатрабаванай.

За допушчаныя правапарушэнні вінаватых службовых асоб прыцягнулі да адказнасці. Выпраўленне недахопаў кантралюе дзяржкантроль.



Фота забяспечана камітэтам дзяржкантролю.

Радашкавічы. Адно з памяшканняў.

**Паводле Маладзечанскага міжраённага дзяржкантролю.**

## З-за курыных яек ледзь не згарэў інтэрнат

**ВІЛЕЙКА**

Увечары 2 мая вілейскія выратавальнікі выязджалі на вуліцу Камарова, дзе ў інтэрнаце адбылося задымленне.

Па словах **Яўгена Камарова**, інспектара нагляду і прафілактыкі, прычынай задымлення стала ежа, забытая на пліце, якая ўжо пачала падгараць.

На электрычнай пліце на кухні адзін з жыхароў паставіў варыць курыныя яйкі і забыўся пра іх. Кухня задымілася, спрацавала пажарная сігналізацыя.

За правапарушэнне жыхару інтэрната пагражае штраф.

## На плошчы Свабоды згарэў гараж

**ВІЛЕЙКА**

28 красавіка на плошчы Свабоды, 10 згарэў гараж.

Пра гэта выратавальнікам паведамілі каля 15:00. У вілейскім ГРАНС распавялі, што першыя машыны прыехалі на месца праз пару хвілін.

Гараж гарэў адкрытым полымем. Пасля таго, як будынак патушылі, устанавілі, што аўтамабіля ў ім не было.

Гараж часткова выгараў знутры, часткова абрушыўся. Агонь пашкодзіў склеп, які месціцца побач.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ТЭМА НУМАРА

# Калекцыя зброі, інсталяцыі пра Гагарына і Курта Кабейна, сэрца самазабойцы –

## у Маладзечне адкрылі музей: пакой гісторыі судова-экспертнай дзейнасці

МАЛАДЗЕЧНА

**У аўторак, 8 мая, у Маладзечне адбылося ўрачыстае адкрыццё першага ў краіне пакоя гісторыі судова-экспертнай дзейнасці.**

Пра што расказвалі на экскурсіі для першых гасцей музея, чытайце ў артыкуле "РГ".

### У памяць бацькі і ўсёй культуры крыміналістыкі

Ідэя сабраць памяць аб працы судовых экспертаў з'явілася ў начальніка Маладзечанскага міжраённага аддзела Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз **Юрыя Будо** даўно. У 2015 годзе звярнуўся да начальніка Упраўлення з дакладнай прапановай, і яе падтрымалі.

Думкі аб тым, як пакой гісторыі павінны выглядаць, з цягам часу складваліся ў стройную сістэму, накопліваліся новыя матэрыялы. Калі ўсё падрыхтавалі, заняліся афармленнем інтэр'ера.

– Штодня я бачыў, што гэта цяжкая праца, – расказвае начальнік Маладзечанскага аддзела. – Мой бацька, **Георгі Будо**, абслугоўваў Маладзечанскі, Вілейскі і Валожынскі раёны як судовы медык, і працай быў заняты пастаянна. Бацька працаваў без малога 40 год, я заўсёды меў спецыяльную літаратуру. Крыміналістыка чытаецца запоем, як дэтэктыў. З дзяцінства памятаю, што ў яго амаль не было выхадных. Я не магу не аддаць даніну павагі яму, яго калегам і ўвогуле карпаратыўнай культуры судовай экспертызы.

Музей уяўляе сабой пяць экспазіцый, кожная з якіх мае сваю тэму. У пакоях акуратна размешчаныя кнігі, у тым ліку рарытэтныя выданні канца 19 – пачатку 20 стагоддзяў, інструменты, якімі карысталіся эксперты розных часоў, фотаздымкі.

Да выгляду музея падышлі з мастацкім густам. Сцены, столі і нават вокны ўпрыгожаныя фатаграфіямі, вершамі, цікавымі інтэр'ернымі рашэннямі. Нават люстры тут маюць і мастацкае, і сэнсавае напаўненне.

Некаторыя рамы наўмысна пакінулі пустымі – гэта месца для новых гучных дасягненняў беларускай судовай экспертызы.

### Пакой 1. Фотапамяць

У першай частцы музея размешчаныя фотаздымкі, якія паказваюць працу судмедэкспертаў, работнікаў.

У асобным стэндзе аддалі даніну памяці эксперту-крыміналісту **Івану Карэцкаму**, які загінуў пры выкананні службовага абавязку 30 снежня 1998 года ў Турэц-Баярах. Ён паехаў на месца здарэння, стаяў на асветленым участку, а з цемнаты яго застрэліў злачынца. Крыміналіст загінуў на месцы. Засталася дачка і ўдава. Калегі памятаюць пра яго, штогод прыбіраюць магілу, дзе Карэцкі пахаваны. Калегі запомнілі яго як эрудыта і прафесіянала, які ледзь не штодня знаходзіў супадзенні, што вялі да раскрыцця злачынстваў.

### Пакой 2. Восем айцоў крыміналістыкі

Наступны пакой прысвечаны васьмі айцам судовай экспертызы. Альфонс Бертыльён працаваў памочнікам пісьмавёўцы ў паліцэйскай прэфектуры Парыжа. Яго абавязкам было запаўняць статыстычныя карткі на злачынцаў. Робячы гэта штодня, Бертыльён зразумеў, што займаецца абсалютна бессэнсоўнай працай. Усе яны сярэдняга росту і ў цыліндрах. Вырашыў, што калі людзей замяраць па 14-15 пазіцыях, то аднолькавых не будзе. Выпрацаваўшы структуру на аснове сваёй здагадкі, у першы год злавіў двухтрох злачынцаў, а на наступны – адразу 600. Усе тагачасныя газеты свету крычалі, што гэта прарыў, "Мы перамаглі злачыннасць".

Яго працўніка Фрэнсіса Гальтана наведала думка пра тое, што можна ідэнтыфікаваць чалавека па адбітках пальцаў. Абодва крыміналісты змагаліся, чый метад лепшы, але перамог Гальтан. Але параметры картак, прапанаваных Бертыльёнам, і цяпер выкарыстоўваюць у крыміналістыцы для апісання людзей.

У гэтым раздзеле ёсць таксама фотакарткі з самых вядомых і жахлівых злачынстваў, што мелі месца на мяжы 19-20 стагоддзяў.



У пакоі, прысвечаным судовым дактарам, уладкаванае месца для фотазоны. Наведнікі могуць прыйсці і сфатаграфавацца ў вобразе судмедэксперта 60-х.



Удава судмедэксперта Генрыха Бурака Іна Бурак дзякуе за ўшанаванне памяці мужа.



Інсталяцыя, прысвечаная Сяргею Ясеніну.

### Пакой 3. Маладзечна 60-х і самыя загадкавыя смерці

Сапраўдны гарадскі вулічны ліхтар, даваенны ровар, спраўны самагонны апарат і манекен у форме савецкага міліцыянера, які ў той час і займаўся працай крыміналіста. У пакоі размешчаная літаратура таго часу, некаторыя асобнікі – сапраўдныя рарытэты. А таксама некалькі інсталяцый, што расказваюць пра загадкавыя смерці вядомых людзей. Пакой гісторыі і пачынаўся з гэтых інсталяцый.

Адна з іх прысвечаная Юрыю Гагарыну. У 1968 годзе ён выпрашыў зрабіць трэніровачны палёт з калегам Сярогіным. 20 хвілін прайшлі нармальна, пасля згубілі сувязь. Усё зводзіцца да таго, што ва ўмовах недастатковай бачнасці лётчыкі згубілі кіраванне і на вялікай хуткасці ўрэзаліся ў зямлю.

Пры камп'ютарным мадэляванні ўстанавілі, што лётчыкам не хапіла дзвюх секундаў, ці 200 метраў палёту, каб выраўняць машыну і сысці ад сутыкнення. Судовая экспертыза разбіралася з прычынамі катастрофы, правялі шэраг экспертыз. Паказалі, што позы лётчыкаў былі рабочыя, Сярогін размясціў нагу на педалі кіравання і да апошняга лётчыкі спрабавалі выцягнуць з машыны ўсё, што маглі.

Наступная інсталяцыя прысвечаная Пятру Машэраву. Пра яго смерць у аўтааварыі хадзіла шмат версій. Казалі і пра заказное забойства з палітычных прычын. Разбіраючы ўсе дадзеныя, эксперты прыйшлі да высновы – ніякай падапхлёкі не было, да трагічных наступстваў прывёў шэраг парушэнняў.

Трэцяя інсталяцыя прысвечаная Сяргею Ясеніну, якога знайшлі мёртвым у Ленінградскай гасцініцы. Многія меркавалі, што да яго смерці датычныя агенты АГПУ. Судовая экспертыза паказала – прычынай смерці стала самазабойства. Пасля тыдня ў псіхіятрычнай клініцы паэт не справіўся з душэўнымі перажываннямі.

Яшчэ адна рама прысвечаная лідару культавага гурта 90-х "Нірвана" Курту Кабейну.

### Пакой 4. Рабочае месца судовага доктара 60-х з фотазонай

Пакой уладкаваны так, каб наведнікі адчулі, як працавалі эксперты сярэдзіны 20 стагоддзя. Размешчаныя медыцынскія інструменты, у якасці экспанатаў ёсць часткі даследуемага матэрыялу – чарапы, сэрца маладога чалавека, які здзейсніў самагубства, пазаматачная цяжарнасць, частка мозгу чалавека з анэнцэфаліяй – поўнай ці частковай адсутнасцю мозга.

У пакоі ўладкаваная фотазона – прысутныя могуць апрануць белы халат і зняцца ў вобразе судмедэксперта 60-х.

### Пакой 5. Калекцыя зброі і адмысловая тэхніка

У наступным пакоі сабраная тэхніка розных часоў, якую выкарыстоўвалі эксперты. Асобны блок прысвечаны справе серыйнага забойцы Генадзя Міхасевіча, якога прызналі вінаватым у шэрагу забойстваў у 70-80 гадах у Беларусі.

Стэнды аб дзейнасці ганаровых экспертаў расказваюць пра іх працу і дасягненні.

### Самае месца, каб прыняць рашэнне, ці гэта тваё

– Паказваючы выкананне службовага абавязку, мы ствараем каштоўнасныя арыенціры для маладых супрацоўнікаў, – мяркуе Будо. – Экспазіцыя прызначаная хутчэй для самастойнага вывучэння. Гэта добрая магчымасць для прыняцця рашэння аб будучай прафесіі.

Скласці ўсё было не так і проста. Займець здымак крыміналіста ў час работы – няпростая задача. Яны заўсёды са спецыяльнай тэхнікай, фотаапаратамі, а вось іх за працай звычайна не здымаюць.

Арганізатары пакоя правялі вялікую падрыхтоўчую работу з ветэранамі і ўдовамі супрацоўнікаў. На адкрыцці прысутнічала **Іна Бурак**, удава аднаго з іх, судмедэксперта **Генрыха Бурака**, з праўнукам:

– Вельмі расчуленая і вельмі вам удзячная. Убачыць зноў усіх такімі, як пры жыцці, калі былі жывымі, разумнымі, адукаванымі. Вялікі падарунак, дзякуй!

Дзверы пакоя гісторыі па Янкі Купалы, 50 будуць адчыненыя для арганізаваных наведнікаў.

Зоя ХРУЦКАЯ.
Фота аўтара.

# Правялі суботнік на месцы спаленай вёскі

МАЛАДЗЕЧНА

**28 красавіка актывісты з Маладзечанскай раённай інспекцыі па падатках і зборах выправіліся ў былую вёску Сакаўшчына на Маладзечаншчыне, каб прыбраць там тэрыторыю вакол помніка.**



Калектыўная прыборка.



Аксана Вараб'ёва асабістым прыкладам натхняе калег.

Прыборку зладзілі ў межах акцыі "Захаваем памяць на вякі" і "Года малой радзімы".

– Большасць нашых супрацоўнікаў – людзі актыўныя, стараюцца адгукацца на такія прапановы. Ды і кіраўнік інспекцыі **Наталля Шубцік** падтрымлівае нашу актыўнасць, – кажа **Аксана Вараб'ёва**, галоўны спецыяліст сектара арганізацыі і кадравай работы.

Даваенная Сакаўшчына была невялікай вёскай. Паводле архіўных звестак, тут стаяла сем дамоў і жыло 33 чалавекі. 11 лістапада 1943 года фашысты спалілі Сакаўшчыну разам з яе жыхарамі. Пэўна, за сувязь з партызанамі. У гэты ж дзень разам з вяскоўцамі загінулі і сем'і з хутара Клайдуці, што знаходзіўся непадалёк.

Пасля вайны вёска не аднавілася. У 1973 годзе на яе месцы насыпалі курган. На ім устанавілі абеліск з надпісам: "Вёска Сакаўшчына 11 лістапада 1943 года цалкам знішчаная фашысцкімі карнікамі. Памятайце ўсе!".

– Нашы супрацоўнікі не маглі застацца ўбаку, бо шануюць мінулае, – кажа Аксана. – Мы прыбралі абгароджаную бардзюрамі тэрыторыю, мужчыны скасілі трымерам траву. Пачысцілі зарослую тэрыторыю ад кустоў. Грошы на фарбу і іншыя патрэбныя для суботніка рэчы выдзеліў прафсаюз.

Памяць пра вайну варта захоўваць, лічыць Аксана. Ва ўсялякім разе ў сям'і Вараб'ёвых так робяць.

– Абодва дзяды мужа ваявалі і дайшлі да Берліна, – прыгадвае жанчына свой радавод. – Пра аднаго нават кніжку напісалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фотаздымкі забяспечаныя Аксанай ВАРАБ'ЁВАЙ.**

# Нізкі кошт ці добрая якасць: што выбраць?

МАЛАДЗЕЧНА

**Апошнім часам дзяржінспектары аддзела маладзечанскага дзяржнагляду правялі 31 праверку.**

Спецыялісты правяралі, як выконваюцца тэхнічныя рэгламенты Мытнага саюза падчас продажу рэчаў для дзяцей і падлеткаў і тавараў лёгкай прамысловасці, у тым ліку, па нізкіх цэнах.

Праверылі 28 арганізацый і 1346 найменняў прадукцыі, з іх 638 – па нізкіх цэнах. Знайшлі парушэнні патрабаванняў тэхнічных рэгламентаў у 93,1% танных імпартных тавараў.

Асноўнае парушэнне – адсутнасць фабрычнай этыкеткі вытворцы. Часта маркіроўка ўяўляе невялікі аркуш паперы з надрукаванай на камп'ютары або напісанай ад рукі інфармацыяй.

Няма назвы вытворцы, імпарцёра, іх адраса, даты вырабу тавару, сімвалаў па доглядзе за рэчамі. Недавер выклікае працэнт натуральных і штучных валокнаў, пазначаных у маркіроўцы.

Адсутнасць знака ЕАС у маркіроўцы тавару павінна насцярожыць пакупніка. ЕАС – адзіны знак абарачэння тавараў на рынку краін-членаў Мытнага саюза. Калі ў пакупніка ўзнікаюць сумненні ў якасці тавараў, то ён можа праверыць, ці дзейнічаюць дакументы аб ацэнцы адпаведнасці на адзінай тэрыторыі Мытнага саюза. Гэта можна зрабіць на сайце www.gosstandart.gov.by.

60% праверанай прадукцыі дакументаў – сертыфікатаў або дэкларацый. А гэта значыць, што тавары не праходзілі абавязковае пацвярджэнне на адпаведнасць біялагічнай, хімічнай, а для абутку механічнай бяспекі па паветрапрапускальнасці, устойлівасці афарбоўкі падчас мыцця, поту, утрымання шкодных рэчываў.

Такія тавары нельга прадаваць. Бо адсутнасць дакументаў на кожную рэч не гарантуе пакупніку бяспеку.

Паўторныя праверкі паказалі, што прадаўцы не цалкам ліквідуюць знойдзеныя раней парушэнні. З трох паўторных маніторынгаў усе адмоўныя.

Спецыялісты дзяржнагляду забаранілі прадаваць тавары на суму больш за 16 тысяч рублёў, бо яны не адпавядаюць патрабаванням.

Аддзел дзяржнагляду працягвае кантраляваць адпаведнасць прадукцыі неабходным патрабаванням.

**Святалана БУЙНОВА,**
**намеснік начальніка аддзела дзяржнагляду Маладзечна.**

## На Вілейшчыне знеслі інфармацыйны стэнд пра вёску Касута і Піліпа Орліка

ВІЛЕЙКА

**Здарэнне адбылося ў вёсцы Касута, на радзіме ўкраінскага гетмана Піліпа Орліка. Знішчаны стэнд з інфармацыяй пра аўтара першай украінскай канстытуцыі.**

Яго знеслі паміж 27 і 30 красавіка, прыкладна за месяц да дня смерці Піліпа Орліка. Штогод 24 мая ўкраінскія і беларускія патрыёты прыязджаюць у вёску Касута, каб ушанаваць памяць сына беларускай зямлі і героя Украіны.

На стэндзе была размешчаная інфармацыя пра гісторыю вёскі і біяграфія ўкраінскага грамадска-палітычнага і вайсковага дзеяча, гетмана Запарожскага войска Піліпа Орліка і героя нацыянальнага супраціву Расціслава Лапіцкага.

Стэнд быў усталяваны вілейскімі краязнаўцамі 2 верасня 2015 года ля каменя ў памяць Піліпа Орліка, на месцы, дзе ўкраінцы збіраюцца паставіць помнік гетману.

Стэнд не зламалі, а выкапалі і вывезлі на аўтамабілі.

Аказалася, яго выкапалі работнікі Крывасельскага сельсавета.

– У нас цяпер вядуцца работы па добраўпарадкаванні,– расказала старшыня сельсавета **Ірына Супрановіч**. – Нехта там ездзіў і сказаў, што стэнд падгніў. Я паехала глянуць, і сапраўды – адзін бок згніў.

Па словах старшыні, работнікі сельсавета самі яго знялі і будуць перараблiваць тую стойку, цэментаваць,

– Бо калі хлопцы той стэнд ставілі, то яны проста дрэвам у зямлю, без падмурка. А тут жа вада побач. Калі без цэменту, то за два гады і платы ў людзей ушчэнт згніваюць. Грошы ў нас ёсць – на цэмент і стойку хопіць, цягам месяца вернем, – сказала Супрановіч.

**Аддзел інфармацыі.**



Журналіст Аксана Ярашонак з дочкамі Юляй (злева) і Варай ў вобразе траўніц.




Указальнік на розныя секцыі сада.



Бабка-абярэг – магутны сродак абароны дому. Але толькі тады, калі “ажывіць” ляльку спецыяльным абрадам. Якім, раскажа экскурсавод.



Калектыў рэдакцыі і госці святкавання ацэньваюць пах і смак лаванды.

# 12 спраў, якія абавязкова трэба зрабіць у “Аптэкарскім садзе”

МЯДЗЕЛ

**Менавіта “Аптэкарскі сад” на Мядзельшчыне мы абралі, каб адсвяткаваць 23-годдзе “Рэгіянальнай газеты”.**

Месца ўладкаванае і для таго, каб падыхаць свежым паветрам, даведацца шмат новага з экскурсіі, выпіць гарбаты, зладзіць шашлыкі.

Пра тое, што можна ўбачыць у комплексе, расказала экскурсавод **Наталля Смятаннікава**.

## Убачыць цікавую жывёліну

У комплекс часта прыходзяць жывёлы. Адночы проста па сцяжынцы прайшла ліса, адзін зайчык увогуле ўсё лета жыў. На тэрыторыі каля комплексу больш за 40 гнёздаў розных птушак, таму вясной тут проста птушыная паліфанія.

Каля асноўнай тэрыторыі расце малады фруктовы сад з яблынямі, вішнямі, чарэшнямі, ёсць лясны арэх – фундук. Тут плануюць ладзіць экскурсіі з дэгустацыяй адразу з галінкі.

Паблізу размешчаныя спецыяльныя сушылкі, дзе пры тэмпературы каля 55 градусаў адбываецца першая абсушка сыравіны. Пасля пакуюць і адвозяць на чайны завод у Мінску. Там ацэньваюць сыравіну, а пасля фарміруюць у зборы – 12 фірменных ад “Аптэкарскага сада”, а таксама серыя “Калі ласка”.

Сад пабудаваны па прынцыпе манастырскіх агародаў.

## Павітацца з фантанам

На ўваходзе ў сад вас сустрэне рухомы фантан. Пакуль вы стаіце і слухаеце экскурсавода, ён паціху падбіраецца і прыемна абдае пырскамі. Гэта так ён вітаецца.

У фантане ёсць жыхары – жабкі Вася і Коля, а ў вадзе плаваюць рыбкі.

Ад фантана, нібы промні, ідуць дарожкі ў розныя накірункі. У адным з іх размешчаная зручная дзіцячая пляцоўка, куды дазваляюць адбегчы малым непаседам, калі іх стамляе экскурсія. Побач стаіць фітагасцёўня, дзе можна памыць рукі, пачаставацца.

## Пабываць на аромасеансе

У залежнасці ад таго, у які час вы прыедзеце, вам прапануюць пакаштаваць розныя расліны.

Нам дазволілі адскубці іголачку лаванды – расліны магаў і чараўнікоў. Калі расцерці іголачку ў далонях, вырываецца непараўнальны пах.

## Убачыць сакуру

Каб убачыць, як цвіце сакура, неабавязкова ляцець у Японію, можна прыехаць пад Мядзел. Невялікая алея ўпрыгожвае адну са сцяжынак каля фантана. На некалькіх дрэвах прабіліся кветкі, адно ўсё ўбралася ружовымі кветачкамі.

Галінкі сакуры прышчэпленыя на сліве. Каб яны перажылі беларускую зіму, даводзіцца ўкрываць яловымі галінкамі. Летась, калі выдаўся халодны май са снегам, сакура нават не зацвіла.

## Паляжаць на травяным ложку

Адна з секцый сада – “Соннае царства”. Тут растуць расліны, якія супакойваюць, даюць сон і ўлагоджваюць нервы.

А ў цэнтры стаіць ложак, на якім расце трава. Гасцям прапануюць легчы на яго і паляжаць хаця б пяць хвілін. Тады ўся стома сыходзіць у зямлю, а чалавек устае бадзёрым і поўным сіл.

## Дакрануцца да дрэва, якое ў Беларусі адно

Алешыну чорную батанікі спецыяльна вывелі, каб яна расла ў парках.

Аднак чатыры гады таму ў аптэкарскім садзе алешына гэтага віду была адзінай, што расце ў краіне.

## Выбрацца з лабірынта Бабы Ягі

Спецыяльны лабірынт з кустоў вырошчваюць не першы год. Дзеці з задавальненнем гуляюць у ім.

А вось праз пяць-шэсць год кусты вырастуць, і лабірынт стане зусім недзіцячым.

## Даведацца пра самае старажытнае дрэва

Ледавік у свой час спыніўся на Мядзельшчыне, менавіта таму там засталося так шмат азёр і камянёў.

Камянямі ўпрыгожаная частка сада пад назвай “Ледавіковы перыяд”. Тут вам раскажуць пра самыя старажытныя расліны. А таксама вы зможаце ўбачыць гінкга білобу. Від гэтага дрэва нязменны з часоў ледавіка, яму каля 250 мільёнаў год. У Японіі гэта дрэва расце з лісцікамі, падобнымі да веера, а пладаносіць у першы раз у 30 год серабрыстым абрыкосам.

## Даведацца пра абрад для сямейнага шчасця

Прыязджайце ў сад са сваёй парай. Тады экскурсавод прапануе вам паўдзельнічаць у магічным абрадзе, які прынясе сям'і дабрабыт і згоду.

## Сфатаграфавацца ў вобразе траўніка

Памяць пра экскурсію застанецца надоўга, а сябры будуць зайздросціць вашым фота.

Экскурсавод прапануе пераапрануцца ў стылізаваныя ўборы траўнікаў і сфатаграфавацца на фоне хаткі бабкі траўніцы. Мы ў рэдакцыі ўсе так сфатаграфаваліся. Аж не перадаць, як у гэтым уборы адразу мяняешся.

## Пачаставацца сапраўднай гарбатай

У фітагасцёўні прапануюць чаі як завараныя на месцы, так і пакункі, якія можна набыць дадому. Назвы збораў вельмі прыцягальныя – “Мядзельская таямніца”, “Асалода”, “Лазневы настрой”.

Ветлівыя афіцыянткі параяць, які збор лепш падыдзе для пэўнай мэты. Напрыклад, зборы з баданам выдатна падыдуць, каб умацаваць мужчынскае здароўе, з мелісай – каб супакоіць нервы.

## Даведацца пра таемныя сілы траў

Кожная лекавая трава мае прызначэнне. І ў большасці ёсць некалькі ўласцівасцяў. Сон-трава – атрутная, але калі яе высушыць, атрутнае злучэнне выпараецца, і падушка з атрыманага матэрыялу падорыць самы салодкі сон.

У аптэкарскім садзе вам раскрыюць таямніцы самых цікавых і карысных раслін, каб вы маглі выкарыстоўваць іх на карысць свайму здароўю.

## Як з'явіўся “Аптэкарскі сад”

“Аптэкарскі сад” – гэта экскурсійна-турыстычны комплекс, які належыць таварыству “БелАсептыка”. Яго адкрылі ў 2014 годзе на тэрыторыі Нацпарку “Нарачанскі”. Комплекс размешчаны каля вёскі Гатавічы паміж трыма азёрамі – Мястра, Нарач і Белае і займае больш за паўтара гектара.

У стварэнні комплексу грунтаваліся на досведзе еўрапейскіх кляштараў.

Зоя ХРУЦКАЯ.



Фота Наталлі ТУР.

Спявак Анатоль Ярмоленка і кампазітар Алена Атрашкевіч на леташнім фестывалі.

# Праграма Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі зладзяць 8 і 9 чэрвеня.**

**8 чэрвеня**

**Канцэртная зала Палаца культуры**

10:30. Другі тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

15:00. Трэці тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні ў суправаджэнні заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

**Выставачная зала Палаца культуры**

17:00. "Наша малая Радзіма вачамі мастакоў свята" – адкрыццё выставы творчых работ удзельнікаў пленэра "Святасць зямлі беларускай".

**Мінскі абласны драматычны тэатр**

18:00. Спектакль "Вечар" (лірычная меладрама паводле п'есы Аляксея Дударава па "малой радзіме" – беларускай вёсцы).

**Амфітэатр**

21:30. Урачыстае адкрыццё XVIII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2018". Узнагароджанне лаўрэатаў Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

"Мелодыя лёсу" (да 80-годдзя з дня нараджэння Ігара Лучанка, народнага артыста СССР і Беларусі) – канцэрт заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі". Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – народны артыст Беларусі прафесар Міхаіл Фінберг.

**9 чэрвеня**

**Канцэртная зала Маладзечанскай ДШМ**

11:00. "Гэй, узвейцеся сваім крыллем…" – канцэрт акадэмічнай музыкі творчых калектываў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі.

**Канцэртная зала Палаца культуры**

11:00. "Малая Радзіма – пачатак мой і выток" – музычна-паэтычная гасцёўня з удзелам беларускіх паэтаў, дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі.

**Мінскі абласны краязнаўчы музей**

13:00. Меер Аксельрод. "Вяртанне дадому" – выстава графікі.

**Тэлепраграма МКТВ**

15:00. "У аб'ектыве" – тэлеперадача з удзелам беларускіх паэтаў, дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі.

**Чысцінскі сельскі Дом культуры**

16:00. "Джазавы калейдаскоп" – канцэрт беларускай эстраднай песні ў выкананні Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – народны артыст Беларусі, прафесар Міхаіл Фінберг.

**Малая зала Палаца культуры**

16:00. "Асобы эпохі". Творчая сустрэча з заслужанай артысткай Рэспублікі Беларусь Тамарай Раеўскай.

**Канцэртная зала Палаца культуры**

18:00. "Кар'ера доктара Рауса" – спектакль Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.

**Амфітэатр**

21:30. Гала-канцэрт закрыцця XVIII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2018".

"Маладзечанскі зоркапад" – канцэртная праграма з удзелам артыстаў беларускай эстрады.

**8-9 чэрвеня**

**Цэнтральная плошча (8 чэрвеня 15:00-20:00,**

**9 чэрвеня 13:00-20:00)**

"Фестывальная талака" – канцэртная пляцоўка.

"Фестывальная сядзіба" – экспазіцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

"Беларускі пачастунак" – выстава-продаж тавараў народнага спажывання.

Мастацкі пленэр.

**Гарадскі парк**

"Дзіцячае прастора" – забаўляльная пляцоўка для дзяцей (8 чэрвеня 15:00-20:00, 9 чэрвеня 12:00-15:00).

"Art-старт" – моладзевая пляцоўка (9 чэрвеня 15:00-21:00).

**Аддзел інфармацыі.**

## У другасную сыравіну здалі партрэт работы сябра Адама Міцкевіча з-пад Радашкавічаў Іосіфа Аляшкевіча

МАЛАДЗЕЧНА

**Партрэт 200-гадовай даўніны ледзь не трапіў у агульнае смецце.**

Разам са старымі анучамі, паперамі і іншым непатрэбным у гаспадарцы смеццем прынеслі пакамечанае невялікае палатно з ледзь бачнай выявай маладога чалавека з чырвоным эпалетам. Выглядала палатно, прыбітае да саморобнага падрамніка, зусім непрывабна: пыльнае, цёмнае. Відавочна, недзе валялася на гарышчы, а то і ў падвале не адно дзесяцігоддзе.

Карціну паказалі калекцыянеру **Мікалаю Сячко**. Ён пакруціў палатно, паглядзеў на яго з розных бакоў, плячыма паціснуў, але набыў. Прывёз партрэт з Маладзечна ў Мінск. Пачысціў, памыў.

Партрэт, прывезены з пункта другаснай сыравіны, паказалі экспертам у Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску, потым у Маскве. Атрымалі заключэнне, падмацаванае пячаткамі і подпісамі.

Аказалася, карціну напісаў амаль два стагоддзі таму вядомы мастак з Радашкавічаў **Іосіф Аляшкевіч** – сябар **Адама Міцкевіча**, народжаны ў сям'і небагатага музыканта з мястэчка Радашкавічы Мінскай губерні.

Адукацыю Іосіф атрымаў пры падтрымцы графа **Аляксандра Хадкевіча**. Выпускнік факультэта прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта потым ад 1803 да 1806 года ўдасканальваўся ў Дрэздэне і Парыжы. Быў вучнем вялікіх Энгра і Давіда. У 1810 годзе асеў у Санкт-Пецярбургу, дзе пісаў, у прыватнасці, партрэты царскай сям'і. У 1812 годзе быў прыняты ў Імператарскую Акадэмію мастацтваў.

Пра мастака ёсць радкі ў знакамітай паэме "Дзяды" Адама Міцкевіча. І яшчэ цікавы факт: асаблівую вядомасць у Санкт-Пецярбургу наш зямляк набыў дзякуючы высокаму становішчу, якое займаў у асяроддзі пецярбургскіх масонаў.

Сёння партрэт маладога афіцэра (імя і прозвішча яго пакуль не ўстаноўленыя, магчыма, гэта вядомы дваранін і ўладальнік сядзібы) адрэстаўраваны і знаходзіцца ў Мінску, у карціннай галерэі "Прадмесце".

**Паводле sb.by.**



Партрэт маладога афіцэра. Аўтар – вядомы мастак з Радашкавічаў Іосіф Аляшкевіч.

## Вучні Смаргоні паўдзельнічалі ў злёце педагагічных класаў

СМАРГОНЬ

28 красавіка ў Гродзенскім абласным інстытуце развіцця адукацыі правялі рэспубліканскую навуковую педагагіяду. У ёй удзельнічалі вучні дзясятага педагагічнага класа другой школы Смаргоні.

Смаргонская каманда змадэлявала і прадставіла педагагічную сітуацыю "Вы – класны кіраўнік". Па выніках злёту вучні атрымалі дыплом трэцяй ступені.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# “Грошы прапіваюць, хуліганяць, прапаноўваюць нейлонавыя блузкі і шалі”

## Што пісала маладзечанская “раёнка” пра дармаедаў у пачатку 1960-х

МАЛАДЗЕЧНА

**У 1961-1962 гадах у маладзечанскай раённай газеце “Сцяг Кастрычніка” выходзіў шэраг матэрыялаў пра дармаедаў. Некаторыя з іх прапануем ўвазе чытачоў.**

### Дармаедам і самагоншчыкам – рашучая і бязлітасная барацьба

У чацвер, 1 чэрвеня 1961 года, на старонках газеты з’явілася справаздача з сесіі раённага Савета дэпутатаў. “Выступаўшыя на сесіі старшыня калгаса імя Янкі Купалы тав. **Кашэўскі Ю.Ю.**, старшыня Ушаўскага сельсавета тав. **Мацкевіч С.І.** і іншыя з вялікім абурэннем гаварылі аб дармаедах і розных шабашніках, з якімі да апошняга часу ў раёне не вялася належная барацьба.

Усе сыходзіліся на тым, што ў кожным населеным пункце раёна ў бліжэйшы час дармаедам, самагоншчыкам і ўсім тым, хто вядзе антыграмадскі, паразітычны спосаб жыцця, павінна быць аб’яўлена рашучая і бязлітасная барацьба. Справядліва гаварылі аб тым, што органам народнага суда і пракуратуры неабходна забяспечыць строгае захаванне патрабаванняў закона аб узмацненні барацьбы з асабліва небяспечнымі злачынцамі, не дапускаючы аслаблення мер судовага ўздзеяння да раскрадальнікаў сацыялістычнай уласнасці, хуліганаў і іншых злачынцаў”.

На той сесіі прынялі разгорнутае рашэнне, у якім сплanавалі практычныя мерапрыемствы па ўмацаванні сацыялістычнай законнасці і грамадскага парадку ў раёне.

### “Прыгавор суда з задавальненнем сустрэт грамадскасцю”

У нумары за чацвёртага лістапада гэтага ж года чытачам распавядаюць пра суд над жыхаром Маладзечаншчыны **Станіславам Сабалеўскім**. “Дрэнная слава хадзіла ў Развадове і іншых населеных пунктах Мясоцкага сельсавета аб Станіславу Сабалеўскім. Яшчэ юнаком ён стаў на шлях паразітычнага спосабу жыцця. Але праз некаторы час дробныя кражы, хуліганствы яго ўжо не задавальнялі. У сваёй бруднай дзейнасці ён пайшоў далей – стаў бандытам. Як гавораць, да пары збан ваду носіць. Папаў і Станіслаў Сабалеўскі ў рукі правасуддзя. Ён быў асуджан да 25 год пазбаўлення волі.

Між тым горкі ўрок мінулага не пайшоў на карысць злачынцу. Вызваліўшыся па амністыі ў 1954 годзе з заключэння, Сабалеўскі доўгі час не займаўся грамадска-карыснай працай, як і раней працягваў весці паразітычны спосаб жыцця. І вось Станіслаў Сабалеўскі зноў на лаве падсудных. На гэты раз за кражу жыта ў калгасе “Усход”. Злодзею пашанцавала – яго асудзілі на невялікі тэрмін. А ў студзені 1961 года ён зноў вярнуўся дамоў.

Здавалася б, што дармаед зменіць характар свайго жыцця. Але гэтага не здарылася. Станіслаў Сабалеўскі рашыў працягваць “рабіць” грошы несумленным шляхам. З мэтай нажывы ён купіў… быка-вытворніка.

– Вось махляр! – здзівіліся аднасяльчане.

Днямі выязная сесія народнага суда Маладзечанскага раёна разгледзела матэрыял на Станіслава Казіміравіча Сабалеўскага. На аснове Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР “Аб узмацненні барацьбы з асобамі, якія ўхіляюцца ад грамадска-карыснай працы і вядуць антыграмадскі паразітычны спосаб жыцця”, суд вынес прыгавор аб высяленні Сабалеўскага ў спецыяльна адведзеную мясцовасць тэрмінам на 5 год з абавязковым прыцягненнем да працы па месцы пасялення.

Прыгавор суда з задавальненнем сустрэт грамадскасцю,” – пісаў у раённую газету выканальнік абавязкаў міжрайпракурора **Б. Петух**.

### “У сям’і не без урода”

У адным з лістападаўскіх нумароў за 1961 год чытачам прапанавалі артыкул “Дармаеды”.

“Вялікі працоўны ўздым пануе зараз у Насілаўскім аддзяленні саўгаса “Маладзечанскі”. Калектыў рабочых, натхнёны новай Праграмай КПСС, працуе з падвоенай энергіяй. Аднак, як кажуць, у сям’і не без урода. У нас ёсць яшчэ асобныя людзі, якія не прывыклі працаваць, не прыносяць карысці грамадству, жывуць за кошт добрасумленных рабочых.

Узяць да прыкладу хутараніна **Цатку**. Сам гаспадар не працуе, ухіляецца ад работы і яго жонка **Ніна**.

Сям’я карыстаецца прысядзібным участкам у 1,29 гектара, большую частку яго займае сад. Цатка па спекулятыўных цэнах прадае яблыкі ў розных гарадах. Але гэта хапугу не задавальняе. Ён жывіцца саўгасным дабром.

Прывядзём адзін з апошніх фактаў. Вакол хутара была пасаджана саўгасная бульба. Вырасла яна наславу. Клубні адзін у адзін, буйныя. Але пачалі рабочыя ўбіраць ураджай і здзівіліся. Пад многімі кустамі пуста – падкапаны. Хто ж займаецца гэтым? Усе рашылі выявіць злодзея. Сумесна з брыгадзірам **Паўлам Кірыленкам** на ахову бульбы ноччу выйшла некалькі чалавек. Пад раніцу на палетку з’явілася жанчына. Яна накапала добрага паўмяшка клубняў і хацела ўжо ісці дамоў. Але яе затрымалі на месцы злачынства. Ёй аказалася жонка Цаткі – Ніна. Бачыце, ісці на копку бульбы днём у саўгас і атрымаць за добрасумленную працу не хоча, дармаеду зручней ноччу прыхапіць мяшок-другі саўгаснай бульбы.

Дармаеды абкрадваюць добрасумленных людзей. Трэба рашуча з імі змагацца. На жаль, падобныя цаткі прывольна. Цатка і яго жонка жывуць у адным доме з цешчай, разам харчуюцца, апрацоўваюць участкі, але фармальна па гаспадарчай кнізе ў Цюрлёўскім сельсавеце лічацца асобнымі сем’ямі. У выніку гэтага маюць два прысядзібныя ўчасткі, трымаюць больш устаноўленай колькасці жывёлы.

Настаў час навесці ў гэтай справе парадак. Трэба зрабіць так, каб дармаеды не знаходзілі падтрымкі, каб іх ганьбіла ўся грамадскасць. Чым менш будзе дармаедаў, тым хутчэй мы будзем рухацца ўперад, да камунізма”, – пісаў у “Сцягу Кастрычніка” ўпраўляючы Насілаўскага аддзялення саўгаса “Маладзечанскі” **Я. Мажуць**.

Падрыхтаваў
Вадзім ПРАЎРАЦКІ,
Мядзел.

Працяг будзе.




Архіў “РГ”.

Кахаць дзяўчыну-дармаедку свядомым савецкім хлопцам было сорамна.

● КАЛЯНДАР

**11 МАЯ**

**185 гадоў** з дня нараджэння заолага, прыродадаследчыка і доктара **Бенядзікта Дыбоўскага** (1833 – 1930). Нарадзіўся ў маёнтку Адамарын, Маладзечанскі раён. Скончыў Дэрпцкі ўніверсітэт. Быў прафесарам кафедры заалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. За ўдзел у паўстанні 1863 – 1964 гадоў сасланы ў Сібір. Апісаў ўмовы Прыбайкалля. Сабраў вялікую калекцыю прадстаўнікоў фаўны Сібіры. Працаваў доктарам на Камчатцы, загадваў кафедрай заалогіі Львоўскага ўніверсітэта, арганізаваў музей. Вывучаў беларускія азёры Любань, Свіцязь, Чорнае, інш.

**13 МАЯ**

**Дзень Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.**

**85 гадоў** з дня нараджэння **Аляксандра Кішчанкі** (1933 – 1997), беларускага жывапісца, народнага мастака Беларусі. Аўтар вядомага “Габелена стагоддзя” (1991-1995, вўна. Памеры – 14х19 метраў. Вага – амаль 300 кілаграмаў), які занесены ў Кнігу рэкордаў Гінэса.

**17 МАЯ**

**95 гадоў** з дня нараджэння **Яўгена Дзятлава** (1923 – 2003), заслужанага архітэктара Беларусі. Ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні праектаў планіровак і забудовы раёнаў Мінска, у абгрунтаванні будаўніцтва Мінскага метрапалітэна, праетаваў жылыя дамы, універсам “Рыга” па вул. Сурганава, рэстараны “Свіцязь” па Ленінскім праспекце і “Мінск” у горадзе Патсдаме (ГДР). Яго праекты адзначаны прэміямі ўсесаюзных і рэспубліканкіх конкурсаў.

**СЁЛЕТА** спаўняецца **365 гадоў** з часу пабудовы (1653) Міхалішскага касцёла аўгусцінцаў. Узведзены з цэглы ў вёсцы Міхалішкі (Астравецкі раён) у стылі барока архітэктарам з Фландрыі (Бельгія) Крыстоферам Пенсам. Будаўніцтва заказаў сенатар і дыпламат Цыпрыян Павел Бжастоўскі – бацька Канстанціна Бжастоўскага, стваральніка маёнтка Веркі ў Вільні. Касцёл з’яўляецца першым узорам сармацкага барока на тэрыторыі цяперашняй Беларусі. Найбольшую цікавасць выклікае яго інтэр’ер. Амаль два дзясяткі гадоў група італьянскіх майстроў (стваральнікаў унутранага ўбранства віленскага касцёла Святых Пятра і Паўла) разам з сынам архітэктара Іаганам Пенсам упрыгожвалі храм ляпнінай. Касцёл дзейнічае, з’яўляецца помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння.

Марыя БЕРАСНЕВА.

# “Дзеці майго пакалення ўдзячныя бацьку за цікавае і яркае дзяцінства”

## Пра настаўніка фізкультуры, былога дырэктара маладзечанскай спартыўнай школы Валянціна Стойчава распавядае дачка

МАЛАДЗЕЧНА

**Валянціну Стойчаву днямі споўнілася 90. Жыве з дачкой Таццянай, унукамі і праўнукамі. А ў 1960-1980-я гады менавіта гэты чалавек актыўна далучаў да спорту дзяцей Маладзечна. Калег, якімі пачынаў любімую справу, ужо амаль не засталося.**



Валянцін Стойчаў (першы злева) на лінейцы ў спартыўным лагеры ў Даманове.

### Ад расстрэлу выратаваў немец

Валянцін Стойчаў вельмі рана застаўся сіратой. Бацькі, балгары, падчас вайны пераехалі з Балгарыі ва Украіну, у горад Мелітопаль. Там у 1928 годзе нарадзіўся наш герой. Бацькі памерлі, калі сыну было каля трох гадоў. Родная цётка забрала ў Беларусь, у Маладзечна. Яна працавала тут настаўніцай.

– У 1942 годзе інтэлігенцыю з Маладзечна павялі ў Вілейку на расстрэл, – прыгадвае Таццяна расповеды Валянціна Ільіча. – У той калоне была і цётка бацькі, і ён сам, 14-гадовы хлопец. Худы і маленькі, ён ледзь цягнуўся, увесь час адставаў ад калоны. Адзін немец яго падштурхоўваў, а пасля выпхнуў з калоны і штурхнуў у канаву. Так тата застаўся жыць. А цётку расстралялі.

Яшчэ да паступлення ў інстытут фізічнай культуры Валянцін Стойчаў пайшоў працаваць настаўнікам фізічнага выхавання ў 22 чыгуначную школу ў Маладзечне. Сёння гэта гімназія №7. Стары яе будынак, па словах Таццяны, месціўся пад пуцеправодам.

У Маладзечне Валянцін правёў усю вайну. Памятае акупаваны горад, танкі на вуліцах, нямецкія аблавы, падчас якіх мусіў хавацца ў склепе.

### Развярнуў у горадзе спартыўнае будаўніцтва

Часам Валянцін Стойчаў прыгадвае гады студэнцтва. Распавядае дачцэ і ўнукам, як удзельнічаў у парадах здароўя і разам з іншымі студэнтамі выстройваў знакамітыя піраміды. Як выкладчыкі прымушалі студэнтаў-фізкультурнікаў загараць, каб для мерапрыемстваў мець прыгожы смуглявы колер скуры.

Пасля вучобы вярнуўся на старое месца працы. Толькі 22 чыгуначная школа ўжо стала сёмай.

І пачалося. Дзе з’явіўся першы ў Маладзечне тэнісны корт? – У сёмай школе. Яго Валянцін Ільіч пабудаваў разам з вучнямі. Дзе зрабілі першы ў горадзе цір для вучняў? – У сёмай школе. Дзе арганізавалі першую лыжную базу? Адказ можна прадбачыць.

### Мы самі былі ўсе ў спорце

У канцы 1960-х Валянцін Стойчаў стаў дырэктарам спартшколы ў Маладзечне. І спартыўнае будаўніцтва працягнулася.

– Калі тата стаў дырэктарам спартшколы, яна ўяўляла сабой адзіную гімнастычную залу, – прыгадвае Таццяна. – Лёгкай атлетыкай дзеці займаліся на калідоры.

Пры Валянціну Ільічу ў школе пабудавалі лёгкаатлетычны манеж, які выкарыстоўваюць і сёння, залу для спартыўных гульняў, дзіцяча-юнацкую школу па футболе, спартыўную гасцініцу за раённай бальніцай.

– Ваш тата быў увесь час у працы, ці хапала яго на сям’ю? – пытаюся ў дачкі.

– Хапала. Але мы самі былі ўсе ў спорце, – адказвае Таццяна. – Брат займаўся гімнастыкай. Я пасля школы паспявала злётаць на лёгкую атлетыку, валейбол, у басейн і на тэніс да бацькі.

Па словах Таццяны, у 1960-1980-я гады ў Маладзечне развіваліся баскетбол, валейбол. Добрыя трэнеры былі па гімнастыцы. Вучні станавіліся кандыдатамі ў майстры спорту. Ледзь не ўвесь горад зімой хадзіў на каток. Калі з’явіўся басейн, захапіліся плаваннем.

– Калі ў класе нехта не займаўся спортам, яго не разумелі, лічылі дзіваком, – прыгадвае Таццяна. – У нашым дзяцінстве займацца спортам было прэстыжна. Цяпер таксама ёсць спартыўныя секцыі, напрыклад, у Лядовым палацы. Але ж усё платнае.

### Дачка выбірала прафесію гледзячы на бацьку

Неяк на Маладзечаншчыне вырашылі стварыць спартыўны лагер для школьнікаў. Узначаліў яго Валянцін Стойчаў. Лагер працаваў некалькі год. Было тры змены. Кожную раніцу, у любое надвор’е, пасля пад’ёму дзяўчаты выбягалі з палатак у купальніках, хлопцы ў плаўках і басанож беглі да рэчкі мыцца. Пасля – лінейка, сняданак, двухгадзінная трэніроўка. Палаткі былі польскія, двухпакаёвыя, з прыхожай. Няпроста было дастаць такія ў савецкі час. Але Валянцін Ільіч зрабіў гэта для сваіх вучняў. Даставаў і мячы, і добры спартыўны абутак.

Спачатку Таццяна ездзіла ў лагер як вучаніца. Калі ж, гледзячы на бацькаў прыклад, паступіла ў фізкультурны інстытут, пачала ездзіць як трэнер.

– Напэўна, дырэктар лагера да вас адносіўся па-асабліваму? Рабіў палёгкі для дачкі?

– Ды не. Якраз наадварот. Ці не кожная лінейка пачыналася фразай: “Стойчава! Крок наперад! Сёння як штрафнік дзяжурыш на кухні!”

У лагеры абавязкова працаваў фатограф. Кожны тыдзень на інфармацыйных стэндах мяняліся фотаздымкі. Выхаванцы з цікавасцю шукалі на іх сябе. Сёння тыя вялікія чорна-белыя карткі захоўваюцца ў сям’і Валянціна Ільіча.

Па словах Таццяны, многія дзеці яе пакалення прайшлі праз спартыўную школу і лагер, якімі кіраваў яе бацька. Цяпер гэтыя дзеці – пенсіянеры. Тыя, з кім Таццяна падтрымлівае адносіны, цёпла згадваюць Валянціна Ільіча і ўдзячныя за тое, што гэты чалавек зрабіў іх дзяцінства цікавым і яркім.



Адзін момант з жыцця спартыўнага лагера. На фота – Валянцін Стойчаў.

### Хацела, каб на мае ўрокі фізкультуры вучні беглі, як да таты

На пенсію Валянцін Ільіч пайшоў у 82 гады. Некалькі апошніх год працаваў у інтэрнаце для дзяцей з парушэннямі зроку. Там праводзіў для вучняў гурткі па тэнісе і шахматах, значна падняў матэрыяльна-тэхнічную базу інтэрната. Дырэктар установы **Наталля Глінская** і сёння не забываецца пра былога супрацоўніка, тэлефануе, віншуе са святамі. Не забываюцца і калегі з сёмай школы.

– Хацелася б, каб пра тату часцей успаміналі ў аддзеле адукацыі, спорту і турызму, – дзеліцца Таццяна. – Усё ж ён шмат зрабіў для развіцця спорту ў Маладзечне. І цёплых слоў ад калег заўжды чакае.

Па словах дачкі, бацька ніколі не вучыў яе спецыяльна нейкім прафесійным сакрэтам настаўніка фізкультуры. Але яна ў сваёй прафесіі шмат узяла ад бацькі, проста назіраючы за тым, як ён працуе.

– Я заўсёды хацела, каб да мяне на ўрок фізкультуры вучні беглі, як да таты, – заканчвае нашу размову Таццяна.

**Фота з сямейнага архіва Стойчава.**



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Сямейная магіла польскай інтэлігенцыі і родавае пахаванне мясцовых паноў

## Што цікавага ў ільянскіх каталіцкіх могілках

ВІЛЕЙКА

**Тут спачываюць мясцовыя паны і настаўніца польскай мовы, доктар медыцыны і генерал польскай арміі. Ужо больш як сто гадоў на могілках на ўскрайку Ілы хаваюць каталікоў з Ільяншчыны.**

"Каталіцкія могілкі", або "польскае кладзбішча" – так дзесяцігоддзямі называюць гэта месца ільянцы. Хоць у нас, у Беларусі, паняцці "каталік" і "паляк" далёка не тоесныя.

### Могілкі пры касцёле, пабудаваным за панскія грошы

Першыя пахаванні ўзніклі ў 1909 годзе, якраз тады, калі за сродкі пана **Януша Тукалы** з Асцюковічаў, **Мечыслава Багдановіча** з Абадоўцаў, а таксама некаторых іншых паноў і заможных сялян у Ілы пабудавалі касцёл з цэглы і камянёў.

Колішні жыхар Лёпаўшчыны **Янка Каляда** распавядаў, што сяляне збіралі камяні для будаўніцтва храма з панскіх палёў і звозілі іх на конях. А за гэта пан плаціў людзям грошы.

Пабудавалі касцёл, а справа ад яго ўзніклі каталіцкія могілкі. У савецкі час паміж могілкамі і касцёлам пабудавалі танцпляцоўку. Яна не вытрымала выпрабавання часам і гісторыяй. Танцпляцоўку з крытай сцэнай знеслі ў 1990-я, а касцёл і могілкі засталіся.

Па словах **Уладзіміра Кажамякі**, краязнаўцы, выкладчыка і пісьменніка з Ілы, да 1909 года ўсіх, незалежна ад веравызнання, хавалі на старых праваслаўных могілках. Але і яны былі не самымі старэйшымі.

Недзе ў першай палове 19 стагоддзя ільянцаў хавалі побач з царквой, пабудаванай у 1820-х гадах. Сёння на месцы былых пахаванняў – лабараторны корпус аграрнага каледжа, пажарная часць і дарога. Варта было б неяк абазначыць гэта месца, хвалюецца Уладзімір Сцяпанавіч.

### Астроўскія – мясцовыя ільянскія інтэлігенты

На каталіцкіх могілках шмат надмагільных помнікаў рознай формы і велічыні. Ёсць унушальныя цэментавыя прамавугольныя тумбы з крыжамі, ёсць каменная імітацыя ствала дрэва, ёсць і даволі сучасныя.

Яшчэ ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гадоў сярод магіл сваёй велічнасцю вылучалася адно пахаванне, бачнае з аўтамабільнай дарогі. З чатырох вуглоў там стаялі каменныя слупкі. Верагодна, што некалі паміж імі былі нацягнуты ланцугі. Такім чынам утваралася агародка. Над магілкамі ўзвышалася цэментавая скульптура Божай маці.

У агароджы – тры помнікі. Кожны – вялікая цэментавая тумба. На некаторых чытаюцца надпісы. "Мечыслаў-Габрыэль Астроўскі. Доктар медыцыны". На помніку з надпісам "Караліна Астроўская" прафесія жанчыны не чытаецца. Аднак са слоў краязнаўцаў і старых жыхароў вядома, што ільянка Караліна Астроўская пры цары і за польскім часам працавала настаўніцай у ільянскай школе-сямігодцы. Кажуць, выкладала польскую мову. Тут жа пахаваныя яшчэ двое Астроўскіх – адзін генерал польскай арміі, родны брат Караліны, другі – ляснічы.

На помніку, што на дваіх, і была каменная фігура Маткі Боскай. Аднак час пашкодзіў скульптуру, і сёння на тумбе стаіць толькі галава ад яе.

– Відаць, вельмі інтэлігентная была сям'я, раз столькі адукаваных людзей з яе выйшла, – мяркуе Уладзімір Кажамяка. – Нехта са старых жыхароў Ілы казаў мне, што сядзіба Астроўскіх месцілася там, дзе сёння паварот да ільянскай бальніцы.

### Ад чаго памёр Януш Тукала

На гэтыя могілкі ў 1994 годзе перапахавалі са старынкаўскіх сямейных апошняга асцюковіцкага пана Януша Тукалу і яго продкаў.

– Януш Тукала раптоўна памёр у 1932 годзе, – распавядае Уладзімір Кажамяка. – У маёнтку ў Асцюковічах здарылася трагедыя: нехта падпаліў гумно, дзе было назапашана шмат сена для жывёлы.

Кажуць, пан Тукала настолькі перажываў з-за пажару, што праз гэта і памёр. Побач пахаваныя яго старэйшыя сваякі: Мечыслаў, Альфонс і Канстанцін Тукалы.

Найбольш звестак засталося пра самага старэйшага з пахаваных, Мечыслава, які памёр у 1885 годзе. Ён вучыўся ва ўніверсітэце ў Дэрпце (цяпер Тарту, Эстонія) на факультэце права. Быў жанаты з Сюзанай Багдановіч. За ўдзел у паўстанні Кастуся Каліноўскага яго саслалі. Нейкі час Мечыслаў Тукала жыў у Дрэздэне (Германія). Потым вярнуўся на радзіму, у Асцюковічы.

Адразу прадстаўнікі роду Тукалаў, якія жылі ў Асцюковічах, спачывалі на сямейным могільніку ў Старынках. Тут таксама ў Тукалаў быў маёнтак. Аднак значна сціплейшы ў параўнанні з асцюковіцкім. Сямейны могільнік у Старынках у савецкі час разрабавалі. І ён доўга стаяў у занядбаным стане.

Жонка Януша Тукалы **Зося** не пахаваная побач з мужам. У Другую сусветную немцы расстралялі яе ў Вілейцы за тое, што хавала ў маёнтку яўрэяў. Дзе пахаваная пані, невядома.

Дзеці Тукалаў, Ян, Канстанцін і Магдалена выехалі ў Польшчу. Ян стаў вайскоўцам. Кажуць, у камуністычнай Польшчы меў праблемы з-за свайго паходжання. Сёння з тых асцюкоўскіх Тукалаў застаўся толькі Канстанцін 1929 года нараджэння – прафесар медыцыны, сенатар.

Менавіта Канстанцін, які жыве ў польскім горадзе Познань, папрасіў сябра свайго дзяцінства Янку Каляду з Лёпаўшчыны перапахаваць Тукалаў на каталіцкіх могілках у Ілы, бліжэй "да цэнтра", да родных Асцюковічаў.

Пакуль Янка Каляда быў жывы, ён даглядаў магілы, пасля, пакуль мог, – Уладзімір Кажамяка – і сам, і разам са школьнікамі.



З апошніх асцюковіцкіх Тукалаў на каталіцкіх могілках у Ілы пахаваны толькі Януш (ззаду). На здымку – сям'я Тукалаў з дзецьмі.




Помнік з надпісам на лацінцы і кірыліцы адначасова.




Від могілак з аўтамабільнай дарогі.

### Па-польску, па-руску і на дзвюх мовах адразу

А пра пахаванага на могілках **Іосіфа Казіміравіча Філіповіча** Уладзімір Кажамяка напісаў у сваёй новай кнізе "Іля-Ілія-Ілья". Напісаў, бо ведаў асабіста, працаваў разам з ім, паважаў. Іосіф Казіміравіч нарадзіўся ў Ілы ў 1919 годзе. У Вялікую Айчынную з першых дзён пайшоў на фронт. Ваяваў пад Ельняй, Масквой, Курскам, вызваляў Беларусь. Пад Брэстам яго цяжка паранілі. У 1944 годзе Іосіфа Філіповіча дэмабілізавалі па стане здароўя. Ад 1945 года працаваў у Ілы, тады раённым цэнтры, загадчыкам райкамгаса. Ад 1957 года, ад самага ўтварэння Ільянскага сельгастэхнікума, стаў працаваць загадчыкам гаспадаркі. Меў шмат баявых узнагарод.

Добра бачныя лацінскія літары на высокім помніку на дваіх. Надпіс унізе – "Зялёнка Анна. Жыла 20 год. Памёрла ў 1929. Памяць сястры". А ўверсе ў асобнай рамачцы "Зялёнка Аўдоцця. Жыла 70 год. Памёрла ў 37. Памяць дачкі". Помнік аздоблены раслінным арнаментам.

Надпісы на помніках – на польскай і рускай мовах. На адным – нават адразу і лацінкай, і кірыліцай: "Kazimir Luksza Иосифович. 1905-1944".

На некаторых помніках, напрыклад, у Тукалаў, літары "D.O.M". Як тлумачаць інтэрнэт-крыніцы – гэта скарачэнне лацінскай фразы, якая першапачаткова перакладалася як "за найвялікшага і найлепшага бога". Спалучэнне слоў паходзіць яшчэ з паганскіх часоў і прызначалася богу Юпітэру. Пасля прыняцця хрысціянства фразу пачалі прымяняць у адносінах да адзінага бога. Сучаснае значэнне прыкладна такое: "Богу лепшаму, найвялікшаму".

На многіх помніках розных гадоў можна сустрэць літары "S.P." Гэта скарачэнне ад польскага "Świętej Pamięci" – "светлай памяці".

А вось яшчэ адзін надпіс падноўлены на помніку белай фарбай. Напісаны лацінкай "Тут спачывае Брыль Францішка. Жыла 84 гады. Памёрла ў 1971". Уверсе – каталіцкі крыж, абведзены кругам. Знізу – чамусьці сонейка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Падводзім вынікі праекта "Шахматы з Віталем Качатковым"

**Летась майстар спорту Беларусі па шахматах з Маладзечна Віталь Качаткоў пачаў расказваць на старонках "РГ" пра тое, як навучыцца гуляць у самую інтэлектуальную гульню.**

Спачатку ён вучыў дарослых, а пасля выпусціў серыю навучальных урокаў для дашкольнікаў. Дзякуючы Качаткову мы даведаліся, што шахматы – абавязковая частка выхавання для тых дзяцей, якіх бацькі хочуць бачыць паспяховымі.

"Хіба хтосьці з бацькоў не хацеў бы, каб іх дзеці заўсёды перамагалі?

> **І я ўпэўнены, што шахматы дапамагаюць выхаваць дзіця здольным раскласці любую лагічную задачу, а ў будучым стаць неперажным у канкурэнтнай барацьбе. У Швецыі і многіх школах ЗША шахматы – агульнаадукацыйны прадмет.**

Таму што нішто так не развівае логіку, як гэта гульня. У іерархіі барацьбы шахматы заўсёды на вышыні.

Паверце мне, бацьку траіх дзяцей, што вучыць дзяцей шахматам – адзін з найважнейшых унёскаў у паспяховую будучыню сына ці дачкі", – піша майстар спорту.

Напрыканцы праекта мы запрасілі дзяцей нашых чытачоў даслаць малюнкі, у якіх было б адлюстраванае якое-небудзь шахматнае правіла.

Першы малюнак даслала шасцігадовая **Алёна Краўчанка** з Вілейкі. Яе бацькі пішуць: "Гульня ў шахматы і шашкі вельмі падабаецца нашым дзецям – Алёне (6 год) і Вову (5). Гэта добры спосаб адцягнуць ад мульцікаў. Як гуляць у шахматы, Алёне паказаў дзядуля. Яна хутка запомніла назвы фігур і як яны перасоўваюцца па дошцы. Вова таксама вельмі добра засвоіў значэнні ўсіх фігур".

Другі малюнак даслаў 14-гадовы **Уладзіслаў Роўда** з Княгініна.

Гэтыя малюнкі Качаткоў мяркуе размясціць у кніжцы, сабранай з матэрыялаў па навучанні шахматам дашкольнікаў.

Сачыце за навінамі шахматнага жыцця рэгіёна і адважвайцеся на новыя дасягненні ў каралеўскай гульні!

**Аддзел інфармацыі.**



Малюнак Алёны КРАЎЧАНКІ з Вілейкі.



Малюнак Уладзіслава РОЎДЫ з Княгініна.

# А фотасесія ўсё не заканчвалася

## Дзіцячы цэнтр "Надзея" наведала трохкратная параалімпійская чэмпіёнка-лыжніца



Фота забяспечана Марынай ХАРЭЎСКАЙ.

Выступленні футбалістаў-фрыстайлістаў дзеці здымалі на відэа.

ВІЛЕЙКА

**У апошнія красавіцкія дні дзіцячы цэнтр "Надзея" наведаў трэнер па міні-футболе Анатоль Усенка.**

Ужо некалькі разоў Усенка прыязджаў у цэнтр са сваімі выхаванцамі – футбольнай камандай інвалідаў па зроку і слыху. На гэты раз Анатоль Іванавіч прывёз новых гасцей – трохкратную параалімпійскую чэмпіёнку-лыжніцу **Святлану Стафаненку** і членаў каманды футбалістаў-фрыстайлістаў.

– Пра Святлану тыя дзеці, што цікавяцца спортам, чулі шмат, – распавяла супрацоўніца цэнтра, адна з арганізатараў сустрэчы **Марына Харэўская**. – У 2015 годзе Святлана – інвалід па зроку – стала чэмпіёнкай параалімпійскіх гульняў у Пёнчхане.

Для гасцей правялі экскурсію па "Надзеі". І калі для Анатоля Усенкі ў цэнтры ўсё даўно знаёмае, то Святлану, па словах Марыны, вельмі ўразілі ўмовы, у якіх жывуць і вучацца дзеці.

### Пыталіся пра першае каханне і пра прэзідэнта

Пасля экскурсіі госці сустрэліся з выхаванцамі "Надзеі". Амаль дзве гадзіны доўжылася жывая гутарка. Дзяцей цікавіла, ці былі моманты, калі Святлана хацела сысці са спорту, ці знаёмая яна з Аляксандрам Лукашэнкам, калі яна ў першы раз закахалася.

Па словах Святланы Стафаненкі, яшчэ ў шостым класе сказала бацькам, што за яе дасягненні ёй пацісне руку кіраўнік дзяржавы. Прадказанне збылося ў 2015 годзе.

Святлана нарадзілася ў сям'і, дзе пяцёра дзяцей. Але ў спорт пайшла толькі яна адна. Распавяла, што праблемы са зрокам не перашкаджаюць займацца спортам. Прызналася, што ўвесь час носіць лінзы "мінус дванаццаць".

Госці падарылі выхаванцам "Надзеі" спартыўныя часопісы, паказалі свае ўзнагароды.

Футбалісты-фрыстайлісты прадэманстравалі гледачам трукі з мячом. Падкідалі яго і рукамі, і нагамі, і галавой, і лежачы, і седзячы. Кожны трук суправаджаўся воклічамі захаплення і апладысментамі з залы. Выступленне шматлікія дзеці здымалі на відэа.

### Фотасесія зацягнулася

– У гэты раз, як ніколі, ледзь не кожны з дзяцей жадаў сфатаграфавацца з госцяй, а тая нікому не адмаўляла, – прыгадвае Марына Харэўская. – Відаць, было асабліва цікава, што перад імі такі вядомы чалавек, пра якога шмат пісалі, гаварылі, якога паказвалі. Таму фотасесія і раздача аўтографаў вельмі зацягнулася.



Фота забяспечана Марынай ХАРЭЎСКАЙ.

Святлану Стафаненку вельмі ўразілі ўмовы, у якіх адпачываюць і лечацца дзеці.

Пасля сустрэчы ў спартыўнай зале цэнтра Анатоль Усенка правёў майстар-клас – паказаў выхаванцам некалькі патрэбных прыёмаў для гульні ў міні-футбол.

– Як толькі з'яўляецца магчымасць, стараюся прыехаць у "Надзею", – падзяліўся ўражаннямі ад сустрэчы Анатоль Усенка. – З цэнтрам сяброўю даўно, урачыста адкрываў тут пляцоўку па міні-футболе. Падабаецца шчырасць дзяцей, іх непасрэдныя пытанні, бляск у вачах. Спадзяюся, што сённяшняя сустрэча надоўга запомніцца дзятве. Не кожны дзень яны сустракаюць трохкратных алімпійскіх чэмпіёнаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Садовы куст.
3. Своеасаблівая спецыялізацыя акцёраў у выкананні роляў.
5. Зёлка для спакою і добрага сну.
9. Амаль тое, што і туфлі.
12. Яго імя носіць школа №1 у Маладзечне.
13. Адна з паэм Уладзіміра Някляева.
15. Ранішні прыём ежы.
18. Прадмет, які носіцца на целе і, на думку яго ўладальніка, мае магічную сілу.
19. Яе прапануюць віляйчанам за прыборку горада.
20. Складанаскарочанае слова.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Чалавекападобная малпа.
4. Стан поўнай абыякавасці.
6. Вёска ў Вілейскім раёне, дзе стварылі музей Першай сусветнай вайны.
7. Французскі паэт па імені Гіём, карані якога з Астравеччыны.
8. Самая кароткая ў Беларусі рэчка, якая злучае азёры Нарач і Мястра.
9. Прозвішча акцёра Мінскага абласнога драмтэатра, які нядаўна адсвяткаваў 50-гадовы юбілей.
10. Аграгарадок на Ашмяншчыне, дзе ёсць рэшткі замка. Кажуць, з прывідамі.
11. Яго 80-годдзю прысвецяць канцэрт на Нацыянальным фестывалі песні і паэзіі ў Маладзечне
14. Яе скульптура ў выкананні Валерыя Апарыка стаіць у вілейскім парку.
16. Мастацтва выразання з паперы.
17. Група цыганскіх сем’яў.
21. Мястэчка на Валожыншчыне. Радзіма навукоўца Вячаслава Рагойшы.
22. Помнік яму стаіць на Старым Месце ў Маладзечне.
23. Што ад 2017 года павінна быць у вушах вілейскіх кароў і коз.
24. Прозвішча аўтара з Чысці, які нядаўна выдаў краязнаўчую кнігу.
25. Горад у нашым рэгіёне, дзе засталіся рэшткі сядзібы ўладальніка вінакурна-дражджавога завода Лейбы Стругача.

## Адказы на крыжаванку з №18

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Проста. 4. Прэрыя. 6. Прыгода. 7. Чарга. 9. Танга. 12. Тузін. 13. Траса. 14. Тарка. 15. Хлеб. 16. Фенікс. 18. Дрыгавічы. 20. Золата. 21. Хуткасць. 25. Талент. 26. Руны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Хлус. 3. Тавар. 5. Хрыбет. 7. Чары. 8. Факт. 10. Фантан. 11. Розга. 12. Трагедыя. 17. Юнга. 19. Рост. 22. Пута. 23. Юс. 24. Уклад. 26. Рубіла. 27. Агонь. 28. Пункцір. 29. Стома. 30. Рыба.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Рэпертуар на май-чэрвень



**РАНІШНІ СПЕКТАКЛЬ**

**ДЛЯ СЯМЕЙНАГА ПРАГЛЯДУ Ў ГОНАР ДНЯ СЯМ’І**

**“Кошкі-мышкі”** 3+ (казка-гульня па матывах п’есы А.Хайта “Дзень нараджэння Ката Леапольда”), *Аркадзь Хайт*
15 мая – у 11:30

**“Сямейны партрэт с пабочнай асобай”** 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
15 мая – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. **“Ну, вы даяце!”** 16+ (камедыя на матывах сучаснай драматургіі)
18 мая – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Некалькі пралётаў уверх**” 18+ (трагікамедыя ў 2-х дзеях), *Радзівон Аўчыннікаў*
24 мая – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Час Сэканд Хэнд**” 16+ (дакументальная драма), *Святлана Алексіевіч*
30 мая – у 19:00

**РАНІШНІ СПЕКТАКЛЬ**

**ДЛЯ СЯМЕЙНАГА ПРАГЛЯДУ Ў ГОНАР ДНЯ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ**

“**Залатое сэрцайка**” 3+ (спектакль-гульня па матывах казак У.Арлова), *Святлана Навуменка*
1 чэрвеня – у 18:00

**У РАМКАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ “МАЛАДЗЕЧНА-2018”, ПРЫСВЕЧАНЫ ГОДУ МАЛОЙ РАДЗІМЫ**

“**Вечар**” 12+ (лірычная драма), *А.Дудараў*
8 чэрвеня – у 18:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by,
www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## ГАРАСКОП 11-17 МАЯ


**АВЕН.** Вас чакаюць змены ў асабістым жыцці і на працы – іх не варта баяцца, насупраць, неабходна прыкласці намаганні для таго, каб атрымаць як мага больш ад гэтых пераменаў.


**ЦЯЛЕЦ.** Вам варта сур’ёзна задумацца над фінансавымі пытаннямі, якія апошнім часам выходзяць з-пад кантролю. Але лёс добразычлівы, і ў вас з’явяцца магчымасці самастойна змяніць сваё жыццё да лепшага, але толькі ў тым выпадку, калі будзеце прыслухоўвацца да свайго сэрца і дзейнічаць, згодна з інтуіцыяй.


**БЛІЗНЯТЫ.** Калі вы задумалі развіваць існуючыя адносіны, выводзіць іх на новы, больш трывалы і сур’ёзны ўзровень (напрыклад, падумваеце аб сумесным жыцці ці дзецях), то цяпер самы зручны час для падобнага роду рашэнняў.


**РАК.** Выхадныя добра прысвяціць актыўнаму адпачынку ў прыемнай кампаніі. Астатнія дні для вас могуць выдасца сумнымі і нецікавымі, вам захочацца сысці ад навакольнага свету далей, засцерагчы сябе ад шуму і мітусні.


**ЛЕЎ.** Цяпер вы можаце адчуць сябе не ў сваёй талерцы і ўвогуле лішнім, бо вас ніхто не захоча слухаць, а падзеі будуць адбывацца зусім незалежным ад вас чынам. І можа, было б лепш, калі б вы і не спрабавалі ў іх умешвацца.


**ДЗЕВА.** Дні вельмі спрыяльныя для вас. Вы будзеце цалкам задаволеныя жыццём. Выхадныя спрыяльныя для зносін са сваякамі, могуць нахлынуць прыемныя ўспаміны аб мінуўшчыне.


**ШАЛІ.** Цяпер у вас ёсць усе шанцы ўмацаваць сваё матэрыяльна становішча, праўда, нічога асаблівага рабіць вам для гэтага і не трэба, хутчэй наадварот – вам важна не перашкаджаць, а ўсё, што трэба, складзецца само сабой.


**СКАРПІЁН.** Дні для вас назваць удалымі ніяк нельга, хоць, з іншага боку, усё ў вашых руках. Вам пачне здавацца, што вас ніхто не шануе і ні ўва што не ставіць, і гэта можа сур’ёзна вас знерваваць і выбіць з каляіны. А пры такім настроі ніякая праца не атрымоўваецца. Таму вазьміце сябе ў рукі і дзейнічайце, як лічыце патрэбным.


**СТРАЛЕЦ.** Вам прыйдзецца рабіць тое, што вельмі надакучыла, але пры гэтым кінуць працу таксама нельга. Разрадзіць абстаноўку і палепшыць сітуацыю дапаможа сяброўская кампанія.


**КАЗЯРОГ.** Цяпер з вас можна будзе браць прыклад, бо вы будзеце паспяховыя ва ўсіх пачынаннях і зможаце па праве сабой ганарыцца.


**ВАДАЛЕЙ.** Цяпер вы зможаце паспець паўсюль і перарабіць усе справы, калі б ні адно “але”. А заключаецца яно ў тым, што вы не зможаце знайсці сабе прымяненне самастойна, назіраецца некаторая разгубленасць. Падзеі палепшацца, калі знойдзецца нехта, хто дасць вам дакладныя ўказанні да дзеяння. Сітуацыя, праўда, нармалізуецца хутка.


**РЫБЫ.** Вам усё ж давядзецца заняцца тымі справамі, якімі вы вельмі не хацелі займацца і адкладалі на потым. Вось гэта самае “потым” і наступіла.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | 1 | 2 | 4 | | | | |
| 9 | 5 | | 6 | | | | 1 | |
| 3 | 7 | | 1 | | | | | 6 |
| | | | | | | 7 | 8 | 9 |
| | 4 | 8 | | | | | | 3 |
| | | | | | 2 | | 5 | 4 |
| 8 | | | 4 | | | | 7 | |
| | | 9 | | 2 | | 8 | | |
| 1 | | 7 | | | | | | 2 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

● НАДВОР'Е

**12 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +10 / +19 | | +10 / +22 | | +14 / +21 | | +10 / +20 | |
| | 748 | ← 5 | 746 | ↙ 5 | 741 | ← 7 | 738 | ← 8 |
| **Вільня** | +11 / +20 | | +9 / +21 | | +11 / +22 | | +11 / +20 | |
| | 754 | ← 4 | 754 | ↙ 9 | 748 | ← 7 | 746 | ← 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 5.13
Захад 21.04
Даўжыня дня 15.51

Усход 4.33
Захад 16.55
Квадра 4

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +8 / +23 | 754 | ↙ 6 |
| Гродна | +9 / +20 | 755 | ← 3 |
| Мінск | +10 / +22 | 746 | ↙ 5 |
| Магілёў | +9 / +23 | 751 | ↙ 6 |
| Брэст | +10 / +21 | 753 | ← 4 |
| Гомель | +9 / +21 | 752 | ↙ 5 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -0,1 °С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +28,4 °С у 2013 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 23,9 мм у 2014 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● **У Вілейцы ладзяць традыцыйны кірмаш вакансій. Якія вакансіі прапаноўвалі віляйчанам на гэты раз? І ці знайшлі што-небудзь для сябе беспрацоўныя жыхары Вілейкі?**



## 21 мая – апошні дзень прымаем бланкі акцыі "Дзясятачка"

Засталіся апошнія дзянькі, каб атрымаць планшэт. Не ўпусціце такую магчымасць.

Дасылайце адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Вучні з класа, якія былі самыя актыўныя, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць яшчэ пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне 53-78-04.

Калі вы перадавалі бланкі ці дасылалі па пошце кожны тыдзень, то вы сярод тых, хто атрымае невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце. Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

Бланкі дасылайце на адрас: 222307, г. Маладзечна, вуліца Вялікі Гасцінец д. 143, ГЦ "Тройка", офіс 518, "Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№19)

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ________________________
3. Клас
Школа________________________
4. Населены пункт________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ________________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")____________
8. Дата атрымання адзнакі ________________________
9. Імя, імя па бацьку ________________________
10. Прозвішча настаўніка ________________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________
12. Подпіс настаўніка________________________

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## У якой кампаніі вы апошні раз елі шашлык?

**Паліна Клокель, доктар-інтэрн:**
– У вялікай кампаніі сяброў-музыкантаў мінулым летам. Елі шашлык, спявалі песні пад гітару, глядзелі на зоркі.

**Дар'я Колзун, вучаніца:**
– У кампаніі бацькоў у вёсцы на майскія святы.

**Мацвей Сысун, вольны мастак:**
– На мінулым тыдні ездзілі ў паход на байдарках па Віліі, але без шашлыкоў. А шашлык апошні раз еў зімой у гасцях у сябра, на Лясных.

**Раман Батоўкін:**
– У кампаніі бацькоў. А было гэта ў вёсцы мінулым летам.

**Аляксандра Івашанка, бухгалтар-эканаміст:**
– У кампаніі сяброў сям'і на праваслаўны Вялікдзень у Заскавічах, на беразе маляўнічага возера.

**Юры Вайтовіч, кіроўца-міжнароднік:**
– У кампані сваёй сям'і пад Мінскам. Былі ў мінулыя выхадныя ў гасцях у цешчы.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№19 (1202) 11.05.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 125 . Падпісана ў друк у 9.00 10.05.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.